# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі

 СВЕТ  БССР  ПОЛЬШЧА  ВАЯВОДСТВА

## У АТМАСФЕРЫ ЛЕГАЛЬНАСЦІ

Больш чым 500 дэлегатаў, выбраных на рэгіянальных партыйных канферэнцыях Аргенціны прынялі ўдзел у XIV з'ездзе Камуністычнай партыі краіны. З'езд склікана ў днях 20—24 жніўня.

XIV з'езд — першы, які адбыўся ў легальных умовах. Апошнія 27 гадоў аргенцінскім камуністам даводзілася працаваць у падполлі, пад пагрозай жорсткіх палітычных рэпрэсій. Адмена законаў, якія забаранялі дзейнасць кампартыі, была выпраўлена ўрадам Эктара Кампоры адразу ж пасля яго прыходу да ўлады 25 мая гэтага года.

## СІТУАЦЫЯ Ў ЧЫЛІ

Выступаючы па радыё і тэлевізіі, прэзідэнт Чылі Сальвадар Альендэ падрабязна прааналізаваў незаконны і падрыўны характар забастоўкі ўладальнікаў грузавікоў і яе цяжкія вынікі для нацыянальнай эканомікі. Да 40 працэнтаў прадпрыемстваў, заявіў С. Альендэ, працуе на чвэрць магутнасці з-за цяжкасцей з падвозам сыравіны і паліва. Сярод гэтых прадпрыемстваў — буйнейшы цукровы завод краіны „Іанса“, заводы малочнай прамысловасці. З-за несвоечасовай дастаўкі насення і ўгнаенняў пад пагрозай веснавая сяўба, сказаў прэзідэнт. Прападае прадукцыя рыбнай гаспадаркі, вялікія страты нясе галоўная галіна эканомікі рэспублікі — меднарудная прамысловасць.

Забастоўка суправаджаецца разгулам тэрарызму і насілля, заявіў прэзідэнт. У выніку справакаваных у краіне правымі сіламі інцыдэнтаў ёсць чалавечыя ахвяры. „Гэта фашызм у дзеянні“, — сказаў С. Альендэ.

## З ДОБРАСУСЕДСКІМ ВІЗІТАМ

Упершыню пасля 1956 года, калі былі нармалізаваны японa-савецкія дыпламатычныя адносіны кіраўнік японскага ўрада К. Танака наведае СССР. У Маскве правядзе ён перагаворы з савецкімі кіраўнікамі па шырокаму колу пытанняў, якія закранаюць адносіны паміж дзвюма краінамі. Ужо сам факт паездкі японскага прэм'ер-міністра ў Маскву, сведчыць аб тым, што адносіны паміж дзвюма суседнімі краінамі дасягнулі такой стадыі, калі патрабуюцца прамыя перагаворы на вышэйшым узроўні, каб намеціць шляхі далейшага развіцця дзелавых і палітычных сувязей паміж імі.

## СПРАВЫ МЕЛІЯРАЦЫІ

У Савецкім Саюзе ажыццяўляецца шырокая праграма меліярацыі. За час, што мінуў пасля майскага (1966 г.) Пленумам ЦК, уведзена ў эксплуатацыю 7,1 мільёна гектараў новых арашаемых і асушаных зямель, магчымасці воднагаспадарчых арганізацый узраслі ў 2,5 раза, створаны буйныя прадпрыемствы будаўнічай індустрыі, у два разы павялічыўся парк меліярацыйных машын. У воднагаспадарчых арганізацыях цяпер працуюць звыш мільёна рабочых і спецыялістаў.

## ЭКСПАРТ „ШКОДЫ“

У мінулым годзе Чэхаславакія прадала 53.6000 аўтамабіляў „Шкода“ у сацыялістычныя краіны і 34.300 — у капіталістычныя. Найбольш закупіла ГДР (15 тыс.) і Югаславія (13 тыс.). 8,3 тыс. купіла Вялікабрытанія, 6,7 тыс. — Францыя, 4,3 — ФРГ. (ак)

## ПЕРАДАВІКІ ЎБОРКІ

На ўсю Беларусь праславіліся імёны такіх майстроў жніўнага фронту як: Л. Сакоўскі, з калгаса „Кастрычнік“ у Хойніцкім раёне, Г. Катляроў з калгаса „Кастрычнік“ у Веткаўскім раёне, М. Краўчук з калгаса „Кастрычнік“, у Клецкім раёне, І. Карнеевіч з саўгаса „Свабода“ у Салігорскім раёне, В. Васілюк з калгаса „Запаветы Ільіча“, у Кобрынскім раёне. Многія з перадавікоў уборкі, закончыўшы жніво ў сваіх гаспадарках, пераехалі на нівы суседзяў.

## ПОСПЕХ ХЛЕБАРОБАЎ

Газета „Звязда“ падае, што ў саўгасе „Любанскі“ з кожнага гектара атрымана больш чым 40 цэнтнераў збожжа. Жніво завяршылі там за 10 дзён.

## ПРА АРТЫСТАЎ КІНО

Паявілася ў выдавецтве „Навука і тэхніка“ цікавая кніжка А. Красінскага „Беларускія акцёры ў кіно“. Аўтар гэтай працы даказвае, што ўдзел беларускіх артыстаў у кіно пачаўся амаль з таго часу, як з'явіліся першыя нацыянальныя фільмы. Кніжка багата ілюстравана здымкамі.

## СЯБРОЎСТВА ПРАДАЎЖАЕЦЦА

Між лодзінскім літаратурным асяроддзем і беларускімі пісьменнікамі завязалася трывалая і дзелавая дружба, пра якую не аднойчы мы ўжо пісалі. Нядаўна ў гасцях у беларускіх майстроў мастацкага слова зноў пабывалі лодзінскія пісьменнікі: Веслаў Яжджынскі, Тадэуш Хрусцялеўскі, Станіслаў Пагачэўскі і Анджэй Занецкі. Яны наведалі радзіму Янкі Купалы — Вязынку, Курган Славы і Хатынь, сустракаліся з многімі беларускімі пісьменнікамі.

## НАСТАЎНІКІ З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ Ў БССР

Як штогод шматлікая група настаўнікаў беларускай мовы са школ Беластоцкага ваяводства пабывала на месячным курсе ў Мінскім дзяржаўным педагагічным інстытуце імя М. Горкага.

У клубе Саюза пісьменнікаў БССР адбылася сустрэча нашых настаўнікаў з беларускімі пісьменнікамі. Аб сваёй творчай працы расказвалі Аляксей Кулакоўскі, Янка Брыль, Мікола Аўрамчык, Аркадзь Марціновіч, Анатоль Вярцінскі, Генадзь Бураўкін, Мікола Катур, Алесь Ставер.

## „ПАЎЛІНКА“ У МАГІЛЁЎСКІМ ТЭАТРЫ

Вясёлая камедыя Я. Купалы „Паўлінка“ ўсё яшчэ астаецца на афішах беларускіх тэатраў. У Магілёўскім абласным тэатры гэты спектакль глядзела ўжо больш за 50 тыс. гледачоў. „Паўлінку“ у Магілёве паставіў рэжысёр У. Л. Караткевіч, а галоўную ролю выконвае тут Н. Караткевіч. Юбілейны паказ „Паўлінкі“ — з нагоды 50-ці тысячнага гледача — адбыўся на сцэне клуба калгаса „Ударнік“ Мсціслаўскага раёна.

## ВУЧНІ-РАЗВЕДЧЫКІ

Цікавую форму правядзення канікулаў прыдумалі для сваіх вучняў настаўнікі многіх сярэдніх школ Мінска. Вучні 121 школы рашылі адшукаць звесткі і дакументы аб партызанскай брыгадзе „Буравеснік“ і таму вандравалі яе баявым шляхам. Школьнікі з 93 сярэдняй школы шукалі матэрыялаў пра героя Савецкага Саюза — Бумажкова. (вр)

## ПАСЯДЖЭННЕ РАДЫ МІНІСТРАЎ

15 жніўня г.г. адбылося пасяджэнне Рады Міністраў з удзелам старшыняў прэзідыумаў ВРН, на якім абмяркоўваліся прынцыпы праекту плана грамадскага і гаспадарчага развіцця краіны ў гадах 1974—1975. Перад нашым грамадствам паўстаюць чатыры найважнейшыя заданні: далейшае ўмацаванне грашоварынкавай раўнавагі, удасканаленне дзеяння на разгорнутым інвестыцыйным фронце, паляпшэнне гаспадаравання людскімі рэсурсамі, сыравінай і матэрыяламі, развіццё замежнага гандлю, асабліва экспарту. Прэм'ер П. Ярашэвіч падкрэсліў, што напрамак дзейнасці вызначаны ў прынцыпах праекту плана грамадскага і гаспадарчага развіцця нашай краіны ў бліжэйшыя гады, поўнасцю адпавядае аб'ектыўным узрастаючым грамадскім запатрабаванням, гэтая праграма не з'яўляецца лёгкай, неабходна разважлівае выкарыстанне ўсіх рэзерваў.

## НАШЫЯ ДАРОГІ

Не належаць да найгоршых ў Еўропе, але вымагаюць няспыннай будовы новых ліній, рамонту і мадэрнізацыі старых. У гэтым годзе праведзен рамонт 1400 км дарог з асфальтаванай паверхняй, да канца года адрамантуецца яшчэ 2700 км. На паляпшэнне дарожнай паверхні ў бягучым годзе пойдзе звыш 5 мільёнаў тон бітуму. Нашыя дарожнікі звяртаюць асаблівую ўвагу на дастасаванне дарог да павялічанага руху і праезду цяжкіх аўтамабіляў (з ціскам 10 тон на вось). У 1970 годзе ў нашай краіне было 12 тысяч км такіх дарог, а ў 1975 годзе будзе іх звыш 20 тысяч км.

## ШТО ПАСЕЕШ, ТОЕ І ЗБЯРЭШ

Яшчэ поўнасцю не закончылася жніво, а ўжо ў збожжавых складах знаходзіцца звыш 150 тысяч тон высокакваліфікаванага насення на асеннія пасевы. У бягучым годзе нашая сельская гаспадарка атрымае 300 тысяч тон насення на абнаўленне. Значна больш, чым у мінулым, будзе пшаніцы „Грана“, „Каўказ“ і „Аўрора“, а таксама жыта „Данькоўскае залатое“. Упершыню ў агульным абмене знойдзецца жыта „Панцэрнае“, якое з'яўляецца ўстойлівым на выляганне.

## ТРАКТАРЫ ЎЗНАГАРОДАЙ ДЛЯ АШЧАДНЫХ

Звыш 95 тысяч ашчадных кніжак на агульную суму 845 мільёнаў злотых маюць нашыя сяляне на той форме ашчаднасці, якую ПКО прэм'юе выйгрышам трактара. Да гэтага часу ў выніку 4 розыгрышаў уладальнікі такіх кніжак атрымалі 244 трактары, у тым ліку ў жнівеньскім розыгрышы — 86 гэтых машын.

## НЕ БУДЗЕ КАЛЕКАМ

У часе жніва ў нешчаслівым выпадку трактарысту С. Тарноўскаму амаль цалкам знішчыла ногу, яна вісела на кавалачках скуры. У выніку трохгадзіннай аперацыі ў хірургічнай клініцы ў Пшэмыслі калектыў лекараў склаў косць, сшыў крованосныя сасуды, нервы і мускулы. Стан хворага паказвае, што аперацыя поўнасцю ўдалася. (мг)

## ЖНІВО ЗАКОНЧАНА

На пераломе жніўня з палёў Беласточчыны знікалі апошнія снапы збожжа. Першым аб заканчэнні жніва павedaміў Кольненскі павет. За ім — Сувальскі, Лапскі і Гайнаўскі. 16 жніўня ў Кнышыне адбылася ўрачыстасць, на якой працаўнікі беластоцкіх ПГР-аў уручылі І сакратару ВК ПАРП З. Куроўскаму рапарт аб заканчэнні жніва ў дзяржаўных гаспадарках. Аб заканчэнні збору ўраджаю збожжа заявілі таксама прадукцыйныя спулдзельні.

У сувязі з заканчэннем жніва Прэзідыум ВРН звярнуўся да сялян з заклікам, у якім дзякуе сялянам за спраўны збор ураджаю і прыпамінае аб добрым забеспячэнні сабранага збожжа і выконванню работ, якія патрэбны для ўраджаю будучага года.

## У БАНК „30 МІЛЬЯРДАЎ“

З кожным месяцам узрастае вартасць дадатковай прадукцыі прамысловых прадпрыемстваў Беласточчыны, якія адгукнуліся на заклік Сакратарыята ЦК ПАРП і Прэзідыума ўрада. Як падае Ваяводскае статыстычнае ўпраўленне, да гэтага часу прадпрыемствы далі звыш плана вырабаў на агульную суму 380 мільёнаў злотых. Некаторыя прадпрыемствы ўжо выканалі або заканчваюць выкананне ўзятых на сябе абавязацельстваў. Напрыклад, прадпрыемства па вырабу жэльбетонных элементаў у Элку, тартакі Акруговага прадпрыемства драўніннай прамысловасці, фабрыка стружкавых пліт у Сувалках, чыгункава-рамонтнае прадпрыемства ў Лапах, фабрыка сельскагаспадарчых машын у Чорнай Беластоцкай, гайнаўскія прадпрыемствы драўніннай прамысловасці і іншыя.

## СУСТРЭЧА З І САКРАТАРОМ

Наймалодшыя студэнты беластоцкіх вышэйшых школ прабываюць цяпер у Беластоку на студэнцкай рабочай практыцы. Студэнты працуюць у пляцоўках службы здароўя, на будовах, удзельнічаюць ва ўпарадкаванні горада да цэнтральных дажынак. 13 жніўня з групай гэтых студэнтаў сустрэўся І сакратар ВК ПАРП З. Куроўскі. Ён расказаў студэнтам аб галоўных напрамках развіцця Беласточчыны, пазнаёміў з планамі выкарыстоўвання кіраўнічых кадраў у гаспадарцы ваяводства. Пасля адбылася вельмі цікавая дыскусія.

У верасні прыязджае ў Беласток наступная 400-асабовая група студэнтаў.

## НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Беластоцкая вёска Клюкова (Высокамазавецкі павет) будзе месцам цэнтральных урачыстасцей пачатку новага навучальнага года. На ўрачыстасць прыедуць прадстаўнікі ўлад на чале з міністрам асветы і выхавання Е. Кубэрскім. У праграме ўрачыстасці — адкрыццё ў Клюкове новай зборнай гміннай школы, для якой пабудаваны новы будынак, і прысваенне школе імя Камісіі народнай адукацыі. Вызначэнне беластоцкай мясцовасці на цэнтральную ўрачыстасць з'яўляецца выразам падзякі за працу і дасягненні беластоцкіх настаўнікаў.

## ВЫСТАЎКІ

Ад 18 жніўня ў салоне Саюза польскіх артыстаў-мастакоў адкрыта выстаўка жывапісу І. Кшэвінскай, а ў будынку Музея рэвалюцыйнага руху па вул. Кілінскага 6 можна яшчэ паглядзець выстаўку пасляпленерных карцін „Пачкаў — 72“. (яч)




**Niedziela — 26.VIII**

7.25 Program dnia. 7.30 TV Technikum Rolnicze — Siewy jesienne. 8.10 Przypominamy, radzimy. 8.30 Nowoczesność w domu i zagrodzie. 9.00 „Osobliwi mieszkańcy Parku Narodowego" — dokum. film angielski („Świat, który nie może zaginąć"). 9.25 Antena. 9.40 „Ostatnie chwile pokoju" (W starym kinie). 10.40 Od Alaski do Rio Grande („180.000 km przygód") 11.10 Niedzielny koncert promenadowy z Drezna. 12.10 Dziennik. 12.25 Przemiany. 12.55 Teatrzyk dla przedszkolaków. 13.40 Piórkiem i węglem. 14.10 „Święto młodości" — Lesko 73 — program rozrywkowy. 14.40 Losowanie Toto-Lotka. 14.55 Interstudio. 15.35 Estrada Poetycka — Poezja Polska, K. I. Gałczyński „Bal u Salomona". 16.05 Radar. 16.15 Mitting Wyścigów Konnych krajów socjalistycznych. 17.30 „Wikingowie" — fab. film USA. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 XIII Międzynarodowy Festiwal Piosenki w Sopocie — Koncert Laureatów. 22.35 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek — 27.VIII**

16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Fotografia" — film prod. węgierskiej. 17.00 Echo stadionu. 17.30 Walce Jana Straussa, śpiewa Poznański Chór Chłopięcy. 17.55 TV Kurier Lubelski. 18.10 Oferty. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 Magazyn Postępu Technicznego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Letni Przegląd Teatru TV: Jarosław Iwaszkiewicz — „Maskarada". 21.55 „Po wachcie" — rep. filmowy („Profile kultury"). 22.25 Dziennik.

**Wtorek — 28.VIII**

10.00 „Czerwone wino" — odc. III. fab. filmu TV Czechosłowackiej. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Sceny fantastyczne" — film baletowy TV Bułgarskiej. 17.05 „Raport z półwyspu Hel" — reportaż („Morskie spotkania"). 17.35 TV Kurier Mazowiecki. 17.55 Dla młodych widzów: „Antek" — film TVP. 18.40 „Rodzina". 19.10 Przypominamy, radzimy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Czerwone wino" — odc. III fab. filmu TV Czechosłowackiej. 21.35 „Pryzmat". 22.05 Dziennik i wiadomości sportowe. 22.30 Studio przebojów — program rozrywkowy TV NRD.

**Środa — 29.VIII**

10.00 „Mats Peter" — fab. film szwedzki. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Informacje — Towary — Propozycje. 17.00 Sprawozdanie z mistrzostw świata w kolarstwie. 18.00 Program filmowy rozrywkowy. 18.30 TV Kurier Warszawski. 18.50 „Orbita". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Film z serii: „Bonanza". 21.05 „Świat i Polska". 21.45 Muzyka w dawnym Gdańsku. 22.30 Dziennik. 22.45 Wiadomości sportowe oraz Kronika mistrzostw świata w kolarstwie.

**Czwartek — 30.VIII**

10.00 Film z serii „Bonanza". 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Gramy o telewizor. 17.05 PKF. 17.15 Spacerkiem po kinach. 17.40 TV Kurier Mazowiecki. 18.00 Telewizja Młodych. 18.45 Sylwetki X Muzy — Andrzej Kopiczyński. 18.10 Przypominamy, radzimy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Wiem, że jesteś mordercą" — fab. film czechosłowacki. 21.50 Bez togi. 22.30 „Ekspres" — nr 33. 23.00 Dziennik. 23.15 Wiadomości sportowe i Kronika Mistrzostw Świata w kolarstwie.

**Piątek — 31.VIII**

10.00 „Wiem, że jesteś mordercą" — fab. film czechosłowacki. 15.55 Program dnia. 16.00 Nie tylko dla pań. 16.30 Dziennik. 16.40 Teatr Młodego Widza — Roman Brandstaetter: „Kopernik", 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Kamera i karabin" — film dokum. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Śpiewa Liliana Urbańska. 20.45 Panorama. 21.25 Teatr TV: Jerzy Broszkiewicz — „Skandal w Hellbergu". 22.45 Dziennik i wiadomości sportowe.

**Sobota — 1.IX**

10.00 „Jeszcze słychać śpiew i rżenie koni" — fab. film polski. 15.45 Program dnia. 15.50 Program I proponuje. 16.10 Redakcja Szkolna zapowiada... Inauguracyjne przemówienie Ministra Oświaty i Wychowania. 16.30 Dziennik. 16.45 Sprawozdanie z Mistrzostw Świata w kolarstwie (wyścig drużynowy). 18.40 „Godzina Orfeusza". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Z bitewnych pól" — występ Centralnego Zespołu Artystycznego Wojska Polskiego. 21.35 Dziennik i wiadomości sportowe. 22.00 „Jeszcze słychać śpiew i rżenie koni" — fab. film polski.

**ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК**

**Piątek, 24 sierpnia**

8.10 Film seryjny. 9.50 Szkoła szachowa. 10.20 Spotkania muzyczne. 11.00 Wioślarstwo. Mistrzostwa Europy. Kobiety. 13.00 Program dnia. 13.05 Film seryjny. 15.00 Świat socjalizmu. 15.30 Uniwersjada. 17.50 Film seryjny. 19.00 Czas. 20.00 Balet. 20.20 Uniwersjada. 21.45 Panorama nowin.

**Sobota, 25 sierpnia**

7.00 Program dnia. 8.00 W eterze „Młodość". 8.30 Wioślarstwo. Mistrzostwa Europy. Kobiety. 9.15 Człowiek. Ziemia. Wszechświat. 9.45 Filmy animowane. 10.30 Przegląd międzynarodowy. 10.45 Koncert dla uczestników Uniwersjady. 12.30 Film fab. 13.50 Białe i czarne. 14.50 Koncert z Sali Kolumnowej. 15.55 Uroczyste zamknięcie Uniwersjady i mecz piłki nożnej: „Spartak" (Moskwa) — „Dynamo" (Kijów). 19.00 Czas. 20.40 Uniwersjada.

**Niedziela, 26 sierpnia**

7.00 Program dnia. 7.30 W moskiewskim ZOO. 9.15 Kiosk muzyczny. 10.40 Spektakl teatru lalek. 11.30 Filmy animowane. 13.45 Klub filmowy. 14.30 Program muzyczny. 15.00 Hokej. Finał turnieju międzynarodowego. Transmisja z Leningradu. 17.15 Koncert. 17.35 Film dokument. 19.00 Czas. 19.30 Koncert życzeń. 20.30 Wioślarstwo. Mistrzostwa Europy. Kobiety.

# З песняй у Сопат

У разгар лета дайшлі да нас чуткі: сапоцкая эстрада арганізуе фестываль песні нацыянальных меншасцей. Неўзабаве прыйшло і канкрэтнае запрашэнне на 50 асобаў калектыву.

Гонар прадстаўляць БГКТ у Сопат выпаў на долю самадзейнікаў з Гарадка, Плёсак і Дубяжына. Яны павінны былі гарантаваць спаяную цэласць. Часу на падрыхтоўку не засталося: сенакос, жніво. Разлік на вопыт і кемлівасць выканаўцаў і іх кіраўнікоў. Таму з мешанымі настроямі адправіліся мы 1 жніўня ў далёкую дарогу. Цешыла магчымасць паказаць свае песні ў славутай польскай сталіцы песенных фестываляў, непакоіла пытанне: ці нашы здадуць гэты важны экзамен?

Ужо першыя кіламетры прадказвалі найгоршае: аўтакар гудзеў ад песняў і заклікі берагчы галасы на Сопат не давалі пажаданых вынікаў. Спявалі ўсю дарогу. Што ж, эмоцыі перамаглі развагу. Ехалі ў асноўным маладыя людзі, якіх цешыла ўжо сама паездка.

Трывожныя ноткі паявіліся на другі дзень, пасля канцэрту ўкраінцаў. Гэта быў зладжаны, на высокім ўзроўні калектыў. Але верх узяла зноў тая ж маладосць: не лёгкая на ўступкі. І калі 3 жніўня ў 20 гадзін пачаўся беларускі канцэрт, я не прыкмеціў у нашых выканаўцаў згубнага хвалявання. Малайчыны! Як бы выгадаваліся на гэтай сцэне. Асабліва гэта датычыць надзейнага ва ўсіх выпадках Гарадка. Гарадоцкія „чараўніцы" ўмеюць стварыць на сцэне адпаведны настрой, прываражыць публіку. Дасканала гэту ролю выконвае, напрыклад, лірычная песня „Не шукай ты мяне" (больш такіх песень!). Апрача гэтай, Гарадок выканаў „Дзве падружкі", „Гарадоцкія частушкі", „Біла жонка мужыка", „Вечарынку", „Ой, пайду я па-над лугам", „Замуж, пайсці трэба знаць" і „А ў нядзелю...".

Не згубіліся на сапоцкай сцэне таксама маладзенькія дзяўчаткі з Плёскаў. Іх гвоздзем праграмы была дасканалая „Вярба". Затым спявалі яны „Ой, пайду я, выйду", „Цячэ за гаем рэчка", „Заходіт слонце", „Сірацінку" і частушкі пра БГКТ. Хочацца параіць гэтаму, маладому, хоць і вядомаму ўжо ў нас квартэту: спявайце больш песняў сваёй вёскі (нічога, што яны на дыялекце), у гэтым ваша сіла.

Адкрываў наш канцэрт калектыў з Дубяжына прывітальнай песняй „Добры дзень". Потым у яго выкананні пачулі мы „Жніўную", „Стаяла бяроза", „Ой, у полі вярба", „Па саду хадзіла", „Ой, маманька, вішня", „Ты чырвоная каліна", „Бабу Еўку", „Сабралася бедна голота", „Пасылала мяне маці" і „Антон маладзенькі". Магчыма, не ўсё тут было дапрацавана і з некаторымі песнямі варта было яшчэ пачакаць, але такія, як „Стаяла бяроза", „Ой, у полі вярба", „Па саду хадзіла", „Ой, маманька, вішня", „Пасылала мяне маці" і асабліва „Ты чырвоная каліна" зрабілі прыемнае ўражанне. У калектыве добрыя салісты Ірэна і Аляксандр Раманюкі. Апошні бліснуў „Зоркай Венерай".



Група нашых ля славутай „Буры" ў Гдыні.

Паміж песнямі выступіла таксама танцавальная пара (Ольга Пыхнер і Янка Крупа) з „Крыжачком" і „Лявоніхай". Уся беларуская група на заканчэнне выканала развітальную „Бывайце здаровы".

Працягвалася наша праграма 70 мінут. Пасля перапынку выступіў сла-

(Працяг на стар. 4)



*Настаўніца Ольга Галавачык з'яўляецца старшынёй рады клуба і адначасова кіраўніком мастацкага калектыва ў школе.*



*Зоф'я Асташэўская — сапраўдная гаспадыня клуба.*



*Арцём Свентахоўскі, абсальвент механічнага тэхнікума застаўся на гаспадарцы ля старавапых бацькоў. У сваёй вёсцы ад вясны, ад моманту вяртання з арміі. Адразу ўключаецца ў жыццё гуртка ЗСМВ і клуба.*

# Жывы клуб

У Тыневічах Малых што ў Гайнаўскім павеце няма ніякага дзяржаўнага будынку, дзе магло б цвісці культурнае жыццё. Няма і не было тут школы, не было і няма святліцы але...

Некалькі год таму назад маладыя людзі Зоф'я і Ян Асташэўскія пабудавалі новы дом. Частку яго адступілі на памяшканне для клуба „Рух". З. Асташэўская стала гаспадаром клуба. Незадоўга ў клубе паявіліся адаптар, радыёпрыёмнік, тэлевізар. У хуткім часе клуб мае атрымаць магнетафон.

Гаспадыня клуба, якой дапамагае муж, навязала кантакт з гуртком ЗСМВ. 25 членаў малатыневіцкага гуртка ЗСМВ хутка пераканаліся, што іменна тут у клубе могуць весці сваю культурную і грамадска-палітычную дзейнасць. Цяпер у клубе адбываюцца ўрачыстасці і вечарыны з нагоды святаў і гадавін, тут адбываюцца сельскагаспадарчыя і маладзёжныя шкаленні. У клубе ў Малых Тыневічах адбываюцца гарцэрскія зборы, дзецям дэманструюцца дыяфільмы. Школьнікі з Вялікіх Тыневіч даюць часта мастацкія часткі.

Але працуе таксама і дарослая моладзь. У мінулым годзе апрацавана сцэнку на беларускай мове, з якой выступалі не толькі ў Малых Тыневічах, але і ў навакольных вёсках. Калі мы наведалі клуб было лета і міма таго, клуб не пуставаў. Сюды прыходзіць моладзь і дарослыя, прыходзяць паглядзець тэлевізар, паслухаць радыё, арганізаваць танцавальную вечарыну, а нават пасядзець, прасачыць прэсу. А пасядзець тут таксама вельмі прыемна і ўтульна. На вокнах чысценькія занавескі, а на століках заўсёды свежыя кветкі. Ды і наогул у клубе чыста. На сценах эстэтычна выкананыя насценгазеты аб краіне і Беласточчыне. Кожны чацвер клуб наведвае аб'язное кіно з Нарвы.

Гурток ЗСМВ пад кіраўніцтвам Мікалая Свентахоўскага арганізаваў сабе спартыўную пляцоўку. Асаблівай папулярнасцю цешыцца валейбол і футбол. Члены гуртка рамантавалі таксама грамадскім чынам дарогу ад вёскі да аўтобуснага паўстанка.

Зразумела, не ўсё ўдаецца адразу. Напрыклад, у мінулым годзе намячалася сарганізаваць у клубе штосьці на ўзор кудзельні. Запрашалі, але людзі ў Малых Тыневічах за мала адважныя, хіба, не прышлі. Гэта нічога, прыйдуць. Цешыць аднак тое, што ў Малых Тыневічах, дзякуючы ініцыятыве і самаадданасці некалькіх жыхароў, развіваецца культурнае жыццё чаго ім можа пазайздросціць не адна вёска.

Тэкст і фота **А. Карпюка**



*Старэйшыя і малодшыя школьнікі — частыя госці і «гаспадары» клуба на працягу цэлага года.*




### МІНІЯЦЮРЫ ЯНОВІЧА НА ПОЛЬСКАЙ МОВЕ

На полках кніжных магазінаў паявілася новая кніжка Сакрата Яновіча, а яе загаловак — „Вялікі горад Беласток"*).

Кніжку выдала маладзёжнае выдавецтва „Іскры". Яновіч вядомы нашаму чытачу як пісьменнік, які піша па-беларуску. Змешчаныя ў новай кніжцы мініяцюры пераведзены на польскую мову паколькі Яновіч надалей піша на мове свайго дзяцінства, па-беларуску. Пераклад 57 твораў зрабілі Тадэўш Джугай, Ян Гушча, Мацей Юзэф Канановіч, Лешэк Кажушка, Ежы Літвінюк, Эдвард Рэдлінскі, Віктар Рудчык і Віктар Варашыльскі.

Цікавую, а мо і дыскусійную характарыстыку аўтара дае рэдактар кніжкі і падборшчык тэкстаў Е. Літвінюк ва ўступе. Гаворыць ён: „Яновіч — хаця на першы погляд можа гэта паказацца парадаксальным — з'яўляецца народным (людовым) паэтам. Паэтам, які піша прозай. Паэтам, таму што не знойдзеш у яго апісанняў для апісання, сказа, які б не хваляваў, не ўзрушаў. Народным (людовым) — паводле фармулы Брэхта — „Народнае, гэта не тое, што аб народзе (людзе), але тое, што датычыць народа. Яго ўяўленне канцэнтруецца вакол таго, што найважнейшае, выбраным дробязям назіраемага выпадку ці пачутага апавядання дае эпічныя размеры. Ударае свежасцю погляду".

Не месца тут распісвацца над творчасцю Яновіча. З нагоды выдання твораў нашага пісьменніка на польскай мове хацелася б адзначыць, што зроблена першы добры крок у галіне азнаямлення польскага чытача з творчасцю беларускіх пісьменнікаў у Польшчы, вырасшых на Беластоцкай зямлі і карыстаючыхся яе глебай у сваёй творчасці.

**А. Карпюк**

*) Sokrat Janowicz „Wielkie miasto Białystok", Iskry 1973, str. 180, zł. 10.

# Што плёскаецца ў Валілаўскіх ставах

У Валілах — ПГР. Адзіны ПГР на ўсю Гарадоцкую гміну. Вось такі сабе звычайны. Нават з тых меншых. Уздоўж пэгээраўскай дарогі пэгээраўскі пастух два разы ў дзень ганяе стада пэгээраўскіх кароў. Пэгээраўскія трактары лепш ці горш аруць пэгээраўскія палі. З левага боку дарогі ў радзе не надта прыгожых, блізнячых пэгээраўскіх домікаў жывуць пэгээраўскія рабочыя.

Дзіва пачынаецца толькі тады, калі зірнеш направа. Блакіт, свежая зелень і недзе далёка-далёка на небасхіле лес. Павеяў вецярок, і ўвесь краявід замільгаў перад вачыма, пакрыўся рабаценнем. Гэта наморшчылася драбнюткай хвалькай гладкае дагэтуль аблічча шматлікіх сажалак. Абрамленыя трысняком, яны расплываюцца „вокамі", як тлушч на паверхні супу, аж некуды пад скрай земляной талеркі. Кіламетрамі цягнецца грэбля.

Ідзеш ды ідзеш. Сеў бы, здаецца, над стаўком, папляваў на чарвячка, закінуў вудачку, ды прыгаварваў ціхенька, як у той казцы: „Лавіся рыбка вялікая ды маленькая".

А вось і шмык! Не! Рыба дык тут ёсць. Камандуе ад-

(Працяг на стар. 5)

# ДОБРЫ НАСТРОЙ

Галоўбух Іван Іванавіч сядзеў за сваім столікам ля акна, лянiва пазяхаў, прыкрываючы рукою рот, і пазіраў на вуліцу. Раптам ён абыякава прагаварыў:

— Мядзведзь...

Намеснік галоўбуха Іван Нічыпаравіч ад нечаканасці выпусціў з рук шарыкавую ручку.

— Што? Дзе?

— Мядзведзь, гавару, — тым жа тонам паўтарыў Іван Іванавіч, гледзячы кудысьці ўгору.

— Які мядзведзь?

— Белы, — пачуўся адказ.

— Дзе? — нічога не разумеючы, Іван Нічыпаравіч падазрона зірнуў на Івана Іванавіча: ці мала што можа здарыцца з чалавекам ад лодарнічання?

— Воблачка, кажу, на мядзведзя падобнае, — растлумачыў Іван Іванавіч.

— Ах, воблачка! — абрадаваўся Іван Нічыпаравіч і зазірнуў у акно.

І сапраўды: па небе плыло адзінокае воблачка, толькі...

— Ну хіба ж гэта на мядзведзя падобна, Іван Іванавіч? Гэта ж сапраўдны леў! Вунь і грыва нават.

— Ты што,Нічыпаравіч, мядзведзя ад льва не адрозніш?

— Іван Іванавіч... — пачаў Іван Нічыпаравіч. Але тут у бухгалтэрыю зайшоў эканаміст Іван Васільевіч.

— А ну давай сюды! — махнуў рукой Іван Іванавіч.

А калі той падышоў, галоўбух тыцнуў пальцам у шыбіну і сказаў:

— Скажы ты Івану Нічыпаравічу, што гэта за звер па небе паўзе.

Іван Васільевіч доўга ўглядаўся ў неба, потым, мабыць, зразумеў у чым справа і выпаліў:

— Самы сапраўдны парсюк!

Іван Іванавіч ікнуў ад нечаканасці:

— Сам ты...

— А хто ж па-вашаму? — спытаў эканаміст.

— Мядзведзь! — сказаў Іван Іванавіч.

— Леў! — сказаў Іван Нічыпаравіч.

— Ну... — разгублена працягнуў Іван Васільевіч і выслізнуў за дзверы.

Мінуты праз тры дзверы зноў адчыніліся і ў кабінет увайшоў дырэктар Іван Кузьміч. Ён паглядзеў на ўсмешлівыя твары сваіх супрацоўнікаў.

— Што тут у вас? — сурова спытаў Іван Кузьміч. — Добры настрой! — І, не чакаючы адказу, накіраваўся да акна, глянуў на воблачка.

— Бегемот! — цвёрда адрэзаў ён, быццам грукнуў пячаткай.

**А. Аўрамчык**

### ПАЗНАЛА

Бацька паказвае Марыйцы літары.

— Глядзі, дачуся, уважліва ды запамінай. Вось гэта літара „А", гэта кругленькая — „О", а гэта — „Я".

Праз некалькі дзён Марыйка ў буквары знаходзіць знаёмае „Я" і радасна пляскае ў ладоні:

— Мама, глянь — вось наш татка!

### НЕ ДАЛІЛА

Вярнуўся Валодзя з малочнай крамы:

— Мама, прадаўшчыца сёння не даліла смятаны.

Адкуль ты ведаеш? — пытае мама.

— Бо я сёння не мог языком дастаць да смятаны ў слоіку.

# НІЎКА

*Ды не спяшы ты! Яшчэ і лётчык жа не прыйшоў!*

## МІНІБАЙКІ

### СВАБОДНАЯ ДЫСКУСІЯ

Барбос пачуў лісіны брэх, усунуў нос у куратнік і спытаў:

— Што тут дзеецца?

— Свабодная дыскусія, — адказала Ліса, — я спрачаюся з Пеўнем.

— Дзіўная дыскусія, — здзіўляецца Барбос, — спрачаешся адна ты, а твой апанент ляжыць і маўчыць.

— Нармальная з'ява, — вытлумачыла Ліса, — Пеўню, каб спрачацца са мною, трэба мець галаву на плячах.

**М. Азаў, У. Ціхвінскі**

### ЗВЫЧАЙНЫМ ШЛЯХАМ

Суддзя пытаецца ў падсуднага:

— Прызнаеце вы сябе вінаватым у кражы цыстэрны спірту?

— Прызнаю.

— Што вы зрабілі з гэтым спіртам?

— Прадаў.

— А што вы зрабілі з грашыма?

— Прапіў.

### НЕ ТОЙ ТЭМП

— Пара пакончыць з гэтымі ідыёцкімі расходамі.

— Дарагі мой, я не трачу больш, чым ты зарабляеш, я проста хутчэй трачу.

— *Эй, вазьміце мяне назад. Я баюся падаць!!*

**...Ён глядзеў субяседніку ў вочы... узяўшы яго за горла.**

**...Ён не любіў падхалімаў. Яны нагадвалі яму яго мінулае.**

### УПЕРШЫНЮ

Жнівень. Сонца бязлітасна паліць дарогу. Селянін, яго конь і возік з цяжкасцю карабкаюцца пад гару. Урэшце, ускарабкаўшыся на гару, селянін выцірае пот і кажа:

— Вось чорт вазьмі! Ніколі ў жыцці не бачыў такой гарачыні, як гэтая!

— І я таксама, — сказаў конь.

— Што? — уздрыгнуў селянін. — Першы раз у жыцці чую, каб конь гаварыў.

— І я таксама, — сказаў возік.

### НЕШЧАСЛІВЫ ВЫПАДАК

Перапалоханы хлапец выбег з гаража.

— Мама, мама, а нашага тата электрыка мала не забіла!

— Як? — збялела маці.

— Акумулятар на галаву ўпаў.

— *Як прыемна пачытаць цікавую кнігу ў адзіноцтве!*

### ЖАХЛІВАЯ ПАМЫЛКА

— Хэло, дружа, я чуў, што ты пасварыўся з мільянеркаю, якая мела намер выйсці за цябе замуж! З глузду з'ехаў ці што?

— Так, гэта праўда. І вінаваты ў гэтым толькі я.

— Што ж ты зрабіў?

— Аднойчы я ёй сказаў, што ў яе зморшчаныя панчохі.

— Ну дык і што?

— А яна была без панчох...

### ВЫГАДНЕЙ

Малады габравец хацеў вучыцца на ўрачатэрапеўта

— Дурань! — лаяў яго бацька. — Будзь зубным урачом. У людзей адно сэрца, затое 32 зубы!

## МІНІВЕРШЫ

### ВЫПІВОХА НА ПАХМЕЛЦЫ

Дужыя перавяліся:
Век жыві і век лячыся.

### ПАДВЯЛА МОДА

Дзяўчыну я спытаў нясмела:
Дзе зараз прыгажосць,
Чаму за дзень так пасівела?
— Была ў цырульні ўчора я!

**Мікола Вяршынін**

## ГУМАР З...

### І БЕЗ ТАГО ВІДНА

— Ведаеш, кум, што мне месяц больш падабаецца, як сонца. Як ідзе чалавек з карчмы дадому, то месяц свеціць — і дадому зойдзеш, а сонца што дапамагае? Яно днём свеціць, а днём і без таго відна.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Алі Чэшаль з Меляшкоў Беластоцкага павету змяшчаем песню з рэпертуару М. Магамаева

## SERCE NA ŚNIEGU

Trojki dwie gonią się
leci w noc dzwoneczków głos
W pierwszych saniach jedziesz ty
a pochodnie sypią skry
co gonitwa ta
nam obojgu da

Ty moich sań śledzisz bieg
I rzucasz serce na śnieg
Żywy kwiat, żywy płomień.
Ja sercu ogrzać się dam
I nie będą już sam
Przyjdzie do mnie dobrze wiem
Trojki skończą swój bieg
Minie zima i śnieg
Wiosna świat zazieleni
Żyć bez serca tak źle
Dam ci swoje weź je
Już nie zmieni tego nikt.

Wokół nas biały śnieg
Niby stos czyściutkich kart
Ktoś napisze może wiersz
O przygodzie naszych serc
Gdy zasypie wiatr
Sań podwójny ślad

Ty moich sań śledzisz...

*Без слоў.*

### ЯК ВАМ ЛЕПШ

— Афіцыянт, што вы мне падалі: каву ці суп?

— Гэта як вам будзе лепш: можаце лічыць, што суп, а можаце лічыць, што каву. Толькі я вам параіў бы думаць, што вы п'еце каву — гэта для вас абыдзецца танней.

# КУРʼЁЗЫ

### МАМА ЗА ПУЛЬТАМ

Гюнтэр Бельцыг, інжынер з Гамбурга, прывык да ўсяго падыходзіць грунтоўна. Таму, калі жонка катэгарычна заявіла яму, што не можа ўправіцца з трыма малалетнімі дзяцьмі без яго, бацькоўскай, дапамогі, ён рашыў пытанне радыкальна. А менавіта — сканструяваў агрэгат, выконваючы функцыі нянькі. Цяпер націскам кнопкі можна было ўключыць баюкаючую канструкцыю, націскам іншай кнопкі — запіс калыханкі ў добрым выкананні. Калі прамокла пялёнка, на табло запальвалася чырвоная лямпачка. Словам, прылада набліжалася да дасканаласці, як лічыў Бельцыг. Адзіная акалічнасць: пакуль Гюнтэр будаваў і дасканаліў свой агрэгат, двое старэйшых дзяцей ужо пайшлі ў школу, а малодшая дачка наадрэз адмовілася лезці ў механізаваную калыску. З вялікай цяжкасцю яе ўдалося заманіць у агрэгат для фотаздымкі.

### ПАКАРАННЕ... АМПУТАЦЫЯЙ

Нядаўна Лівія абвясціла, што ў некаторых выпадках крадзеж будзе карацца ампутацыяй кісці правай рукі і ступні левай нагі. Гэта аперацыя павінна будзе праводзіцца ў бальніцы хірургам.

## МІЖ НАМІ

*Не так ужо важна, адкуль дуе вецер, важна, куды ён дуе.*